# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№12 (223)

снежань 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”






# САРДЭЧНА ВІНШУЕМ ВАС З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Беларусь зараз праходзіць праз складаны, лёсавызначальны перыяд, ад вынікаў якога залежыць наша з Вамі будучыня.

Сёння цяжка сказаць, якім будзе 2021 год для кожнага з нас і для краіны, але мы не забудзем праяваў смеласці, прагі да волі і салідарнасці, якімі ўразіў нас 2020 год. І верым, што наступны год зробіць нас яшчэ мацнейшымі, яшчэ салідарнейшымі, яшчэ больш мэтаскіраванымі ў дасягненні нашай агульнай мэты – вольнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.

Жадаем, каб кожны дзень надыходзячага года ахінаў Вас любоўю і сяброўскай цеплынёй, дарыў сілу і імпэт для плённай працы на карысць Беларусі. Хай у наступным годзе кожная Ваша справа мацуе сусветную беларускую салідарнасць, набліжае дзень вяртання на нашу зямлю права і справядлівасці, апраўдвае надзею і веру беларусаў усяго свету ў хуткі надыход добрых навінаў з Бацькаўшчыны.

Будзьма разам!

Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

## ВІНШАВАННІ АД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ НА ZBSB.ORG



**Песня “Учора з вячора” ад беларусаў Атавы**



**Аўдыякніга “Падарунак” Рэя Брэдберы ад беларусаў Нью-Ёрка**



**Калядка-выцінанка ад “Яваровых людзей”**



**Песня “Ціхая ноч” ад беларусаў Таронта**

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома

навіны

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ І "ВЯСНА" АТРЫМАЛІ ПРЭСТЫЖНУЮ МІЖНАРОДНУЮ ПРЭМІЮ "ЗА ГОДНЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ – 2020"

Старшыня праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі і арганізацыя сталі першымі беларускімі лаўрэатамі прэстыжнай міжнароднай узнагароды "Right Livelihood Award", вядомай як "Альтэрнатыўная Нобелеўская прэмія". Беларускія праваабаронцы атрымалі ўзнагароду за ролю ў барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі. Урачыстае ўзнагароджанне адбылося 3 снежня ў Стакгольме.



Падчас урачыстага ўзнагароджання праваабаронца Алесь Бяляцкі заўважыў, што ўручэнне гэтай узнагароды адбываецца ў той час, калі ў Беларусі ідзе мірная рэвалюцыя:

"Вось ужо паўгода беларускае грамадства вядзе захапляльную барацьбу за правы чалавека, за дэмакратыю і справядлівасць, барацьбу за права "звацца народам", як казаў наш класік Янка Купала, барацьбу з апошнім дыктарам Еўропы і яго рэжымам, які ён будаваў больш 26 гадоў. І гэтая барацьба не праходзіць без ахвяр.

У гэты няпросты для нас час прэстыжная прэмія "За годны лад жыцця" з'яўляецца для нас, праваабаронцаў "Вясны", моцнай маральнай падтрымкай. Узнагарода сведчыць, што тое, што мы робім 24 гады дзеля ўстанаўлення справядлівасці ў нашай краіне – гэта правільна і неабходна. Мы расцэньваем уручэнне гэтай прэміі не толькі як прызнанне якасці працы, мы ўспрымаем яе як знак салідарнасці ўсяго дэмакратычнага свету з беларускім народам. І гэта ясны сігнал беларускім уладам пра тое, што свет ніколі не будзе мірыцца з масавымі парушэннямі правоў чалавека і не прыме таго, што цяпер адбываецца ў Беларусі. Калі мы не хочам, каб Беларусь ператварылася ў ГУЛАГ, трэба падтрымліваць беларускі народ сёння і цяпер", – прамовіў падчас урачыстага ўзнагароджання Алесь Бяляцкі.

"Мае калегі з "Вясны" таксама падвяргаюцца пераследу за праваабарончую дзейнасць", – адзначыў са сцэны Алесь Бяляцкі.

Старшыня Праваабарончага цэнтра "Вясна" сказаў, што ў адрас цэнтра пастаянна паступаюць пагрозы з боку спецыяльнага падраздзялення міліцыі. Нягледзячы на гэтыя пагрозы, праваабаронцы працягваюць займацца дапамогай рэпрэсаваным.

У 2020 годзе 18 сябраў і валанцёраў "Вясны" траплялі пад арышты і затрымліваліся. У кастрычніку Марына Кастылянчанка правяла ў турме месяц. Трэці месяц сядзіць каардынатарка Валанцёрскай службы "Вясны" Марфа Рабкова і валанцёр Андрэй Чапюк. Іх затрымалі за тое, што яны арганізоўвалі прадуктовыя перадачы для палітычных зняволеных у Мінску. Гэту дабрачынную дапамогу ўлады расцанілі як злачынства. Ім пагражае турэмнае зняволенне да некалькіх гадоў.

ПЦ "Вясна"

# АПУБЛІКАВАЛІ ЗАКОН АБ ПАЗБАЎЛЕННІ ГРАМАДЗЯНСТВА БЕЛАРУСІ. КАМУ ГЭТА ПАГРАЖАЕ?

Цяпер у чалавека могуць адабраць грамадзянства нават тады, калі ў яго няма грамадзянства іншай дзяржавы ці гарантый яго атрымання. Раней такога "не допускалася".




Новаўвядзенне не тычыцца грамадзян Беларусі ад нараджэння, а толькі тых, хто грамадзянства атрымаў.

Чалавек можа страціць грамадзянства, калі яго прызнаюць вінаватым у экстрэмісцкай дзейнасці або прычыненні цяжкай шкоды інтарэсам дзяржавы.

Гаворка ідзе пра крымінальныя артыкулы за:

- тэрарызм;
- распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці;
- экацыд;
- найміцтва;
- стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання, масавыя беспарадкі;
- здраду дзяржаве;
- змову з мэтай захопу ўлады, дыверсію;
- заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы;
- стварэнне і фінансаванне экстрэмісцкага фармавання;
- удзел у ваенных дзеяннях на тэрыторыі замежнай дзяржавы.

За гэтыя злачынствы ў новай рэдакцыі закона можна адбіраць грамадзянства нават у тых выпадках, калі раней гэта не допускалася:

- у падазраванага ці абвінавачанага ў крымінальнай справе альбо асуджанага ў Беларусі,
- у таго, хто мае запазычанасць у падатках і іншыя нявыкананыя абавязанні,
- хто не мае іншага грамадзянства ці гарантый яго набыцця.

Права забіраць грамадзянства на гэтых падставах закон дае прэзідэнту краіны.

Дасюль грамадзянства можна было страціць, толькі паступіўшы на службу замежнай дзяржаве (у войска, паліцыю, суд, урад) ці па заяве бацькоў дзіцяці, якое па нараджэнні набыло замежнае грамадзянства разам з грамадзянствам Беларусі.

Атрымаць грамадзянства таксама стала прасцей.

Для ахвотных атрымаць беларускае грамадзянства скарацілі тэрміны пражывання з 7 да 5 гадоў.

Іншаземец з сям'і, дзе сужэнец і непаўналетняе дзіця – беларусы, цяпер зможа прэтэндаваць на грамадзянства праз тры гады пражывання.

Змены набудуць моц праз паўгода. 17 снежня іх афіцыйна апублікавалі.

svaboda.org

навіны

# “Жадаю, каб у новым годзе ўсе вярнуліся дадому”. Як павіншавала беларусаў Святлана Ціханоўская

Святлана Ціханоўская павіншавала беларусаў з Новым годам. Яна прамаўляла на беларускай мове.

“2020 стаў годам, калі беларусы аб’ядналіся. Мы аб’ядналіся ў сакавіку і красавіку, каб дапамагчы медыкам, якія змагаліся за нашыя жыцці. Мы аб’ядналіся ў маі і чэрвені, каб паставіць подпісы за імёны тых лідараў, каму паверылі, і раптам убачылі адно аднаго ў бясконцых чэргах. Мы аб’ядналіся ў ліпені, каб абараніць свой выбар. Нашых кандыдатаў пазбавілі волі, але мы пачалі сустракацца па ўсёй краіне. Займала дух ад таго, колькі нас было на супольных мітынгах! Мы аб’ядналіся ў жніўні, каб аддаць свой голас за перамены.

Мы разам плакалі ад болю, калі даведаліся пра Акрэсціна, і ад радасці – калі ўбачылі, што на Маршы свабоды нас сотні тысяч.

Мы аб’ядналіся ў верасні, каб адчуць: нас ужо не разбіць, не спыніць, не стрымаць. Бо кожны з нас выходзіць не за сябе, а за ўсіх. Бо адзін парваны пашпарт мацнейшы за ўсю машыну рэпрэсій. Мы аб’ядналіся ў кастрычніку, каб на вуліцах і праспектах, у дварах, на заводах і ва ўніверсітэтах змагацца за “краіну для жыцця”. Мы адчулі падтрымку з усяго свету – ад беларусаў і іх сяброў. Мы аб’ядналіся ў лістападзе, каб ушанаваць новага героя. Мы пісалі на сценах “Я выхожу” – бо ніколі не забудзем Рамана Бандарэнку, а таксама Мікіту Крыўцова, Канстанціна Шышмакова, Генадзя Шутава, Аляксандра Віхора і Аляксандра Тарайкоўскага. Мы аб’ядналіся ў снежні, каб заявіць, што гатовыя да новага этапу ў нашай гісторыі, дзе мы будзем жыць паводле закону адзінага для ўсіх. Мы ведаем, што нам ужо не трэба нікому нічога даказваць – мы ўжо даказалі ўсё, што хацелі”, – сказала Ціханоўская.



Яна таксама адзначыла, што 2020 стаў годам, “калі мы перасталі маўчаць і выйшлі з сваіх дамоў. І мы ідзем далей”.

“А хто там ідзе? Ідзе доктарка, якая пасля працоўнага дня ў перапоўненай бальніцы ратуе параненых падчас акцый. Ідзе журналіст, які працуе, каб увесь свет пабачыў кадры з беларускіх вуліц і даведаўся пра герояў пратэстаў. Ідзе аўтамеханік, што бясплатна рамантуе пашкоджаныя дубінкамі і выбухамі машыны. Ідзе валанцёр, які прысвяціў месяцы свайго жыцця іншым. Ідзе колішні міліцыянер, што адмовіўся выконваць злачынны загад. Ідзе праваслаўны вернік, які маліўся за вяртанне каталіцкага арцыбіскупа дадому. Ідзе адвакатка, якая абараняе палітвязня, рызыкуючы згубіць ліцэнзію. Ідзе спартсменка, якая адмовілася ад узнагарод, якія больш не даюць ёй гонару. Ідзе праграміст, які ахвяруе на дапамогу пацярпелым. Ідзе пенсіянерка, якая не хоча, каб ейны ўнук з’ехаў з краіны. Ідзе шахцёр, які далучыўся да стачкі, бо гэта яго законны спосаб патрабаваць новых сумленных выбараў. Ідзе бізнэсовец, які адкрыў дзверы сваёй кавярні для пратэстоўцаў, а зараз хвалюецца за тых, каму ён даў працу. Ідзе настаўніца, у якой дагэтуль у сумцы ляжыць белая стужка. Ідзе мастак, які марыць, як аднойчы ўсе аўтазакі спішуць і аддадуць пад артаб'екты. Ідзе студэнт, які заступіўся за аднагрупніцу, таму што каханне падчас рэвалюцыі – гэта каханне на ўсё жыццё. Ідзе жыхар мікрараёна, які насуперак страху ўпрыгожвае свой двор сцягамі, хоць гэта і “хлопотное дельце”. Ідзе сусед, які ўчора зрываў лістоўкі з пад’ездаў, а сёння сам іх распаўсюджвае. Ідзе беларус, які прагне павагі да сябе як да чалавека. У думках і сэрцы з намі ідзе кожны палітвязень і кожны затрыманы за сваю годнасць. Ідзяце вы – хто зараз глядзіць гэтае відэа”.

Галоўнае, паводле слоў Ціханоўскай, што “мы ідзем разам”.

“Наш шлях адвечны: мы ж выйшлі са сваіх дамоў, каб вярнуцца дадому. Кожны з нас выйшаў, каб усе мы вярнулі сабе наш агульны дом. Таму што дом – гэта месца, дзе мы – гаспадары. Дом – гэта месца, дзе жыве народ, а не народзец. Гэта месца, дзе мы і нашыя родныя ў бяспецы, адкуль не хочацца з’язджаць і куды хочацца вяртацца. Дом – гэта месца, дзе цэняць і любяць усіх і кожнага: і тых, хто хоча перамен, і тых, хто яшчэ сумняваецца. Гэта месца сустрэчы і паразумення. Дом – гэта месца, якое мы заслужылі. І ў новым годзе мы будзем жыць разам у нашым доме – у свабоднай Беларусі.

Я віншую нас з гэтым, дарагія мае беларусы. Жадаю нам заставацца такімі ж шчырымі, адкрытымі і неймавернымі. Жадаю нам яшчэ больш моцы, нашым родным – здароўя, нашым сэрцам – супакою і веры. Жадаю, каб у новым годзе ўсе, каго нам так не хапае, вярнуліся дадому. З новым, 2021 годам! Жыве Беларусь!” – так скончыла прамову Святлана Ціханоўская.

novychas.by

# За падраную балаклаву грамадзянка Швейцарыі атрымала 2 гады і 6 месяцаў калоніі

Суддзя Суда Савецкага раёна горада Мінска Сяргей Шаціла 7 снежня агучыў прысуд па крымінальнай справе грамадзянкі Швейцарыі Наталлі Хершэ – 2 гады і 6 месяцаў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. Менавіта столькі запытваў раней дзяржабвінаваўца. Таксама спагнаць з Наталлі на карысць пацярпелага супрацоўніка АМАП Сяргея Кончыка матэрыяльную кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 1000 рублёў, дзяржаўную пошліну ў 81 рубель, працэсуальныя выдаткі ў 11 капеек. Рэчы Наталлі, канфіскаваныя пры затрыманні (мабільны тэлефон, гадзіннік Apple Watch) пакінуць пад арыштам, а яе бел-чырвона-белы сцяг знішчаць. Сапсаваную балаклаву (раней у судзе агучваўся яе кошт – 1 рубель) – аднавіць.

Нагадаем, Хершэ судзілі паводле часткі 2 артыкула 363 (супраціў супрацоўніку органаў унутраных спраў) – яе затрымалі 19 верасня на Жаночым маршы і абвінавачвалі ў нанясенні цялесных пашкоджанняў супрацоўніку АМАПа Сяргею Кончыку (драпіна каля правага вока) і падраную балаклаву (”невялікае пашкоджанне маскі ў раёне прарэзу для вачэй”).

7 снежня ў 11.00 у рамках судовага працэсу Наталля Хершэ сказала сваё апошняе слова:

“Я жыву ў еўрапейскай дэмакратычнай краіне. Дэмакратычныя прынцыпы свабоды з“яўляюцца неабходнымі прынцыпамі кіравання на ўсіх узроўнях кіравання улады. І правы свабоды слова і мірных сходаў дакладна вызначаны Канстытуцыяй і гарантуюцца дзяржавай. Дзе паліцыянты не хаваюць сваіх твараў перад мірнымі дэманстрантамі. Менавіта такой я бачу сваю Радзіму. Беларусь будучыні. Свабодную Беларусь”.




ПЦ “Вясна”

меркаванні

# Ціхан Чарнякевіч: ЗА ШТО ВЫХОДЗІЛІ БЕЛАРУСЫ Ў 2020-М?

З гісторыі вядома, што калі закон парушаецца часта, злачынства становіцца паўсядзённасцю. Ці ёсць час "за кіпучай работай" на маральна-этычныя перажыванні? Не ўсім хочацца ў гэта верыць, але за гэтыя месяцы мы пабачылі столькі ўсяго расцудоўнага, што ясна, калі штосьці ў кагосьці і варушылася, яно ўжо схаванае – у той самай паўсядзённасці. Боль цяпер збольшага адбіваецца ў тых, на каго накіраваны гвалт, на іх сем'і, на іх сяброў.



Між іншым, колькасць прыватных гісторый болю сёлета стала проста фенаменальнай. Думаю, кожны, хто чытае гэты тэкст, мог бы расказаць сваю, ці гісторыю сваяка, ці сябраву. У адрозненне ад колішніх часоў сталінізму, у Беларусі ёсць магчымасць гэтыя гісторыі прагаворваць, іх ёсць каму фіксаваць. Добра і важна, што іх ёсць каму чуць. Я спадзяюся, усе яны некалі прагучаць шырока. Кожнае сведчанне павінна захавацца. Каб наступным разам крыху менш дзён спатрэбілася чарговаму пінжачнаму еўрабізнэсоўцу з клюшкай на прынясце лагічнага рашэння адмяніць фуршэцікі з крывасмокамі.

Мне даўно рупіла напісаць адзін невялікі тэкст, каб, магчыма, лепш зразумець самому, дзеля чаго і за што ў 2020-м выйшлі беларусы са сваіх цесных кватэр. Супраць чаго і каго – гэта ясна, і, дарэчы, для аўтарытарнай сістэмы на гэтым усё і заканчваецца. Бо кожны пратэст яна ўспрымае як персанальны выпад; для яе няма ніякіх канструктаў, ідэалагем, карацей кажучы – каштоўнасцей (акрамя, безумоўна, самага першага і прымітыўнага значэння гэтага слова). Ёсць толькі прозвішчы, якія ўсё вырашаюць. І нават свечкі на святы ставяцца таму, што нехта І. Хрыстос можа, з пэўнай доляй імавернасці, разруліць нейкія важныя для іх пытанні. І чаму б тады не закінуць вуды?

Усё ж, і мне яўна гэта бачыцца, для пратэсту былі найважнейшым не прозвішчы, а менавіта каштоўнасці. Памятаю, як мяне ўразілі людзі ў першым ланцугу салідарнасці, які транслявалі журналісты Радыё Свабода, праходзячы ад чалавека да чалавека праз увесь мінскі праспект Незалежнасці.

Людзі гаварылі пра сваю абражаную годнасць, пра самае нізкае і крыўднае стаўленне да сябе з боку ўладаў падчас эпідэміі.

Пра тое, што яны хочуць, каб іх воля была пачутая. Каб у краіне з'явілася магчымасць выбіраць і быць абранымі, свабодна, законна і без апрыкрых фальсіфікацый.

Напэўна, упершыню я так часта чуў ад людзей пра сваё законнае права кантраляваць чыноўнікаў і сілавікоў, якія існуюць за кошт сабраных падаткаў.

Вельмі шмат хто, асабліва з маладых, гаварыў пра свабоду. Гэта не заўсёды нават канкрэтызавалася. Чалавек мог проста пасля гэтага моўчкі паглядзець у аб'ектыў, і станавілася ясна, што для яго прага свабоды – не пустыя словы. І, магчыма, падрабязна пералічаць і няма сэнсу, бо свабоды тут заціснутыя ўсе, якія толькі ёсць у канстытуцыях свету.

Безумоўна, вельмі часта гаварылася пра беззаконне. Мне нават падаецца, што гэта і ёсць шуканае "беларускае слова-2020". У ім месціцца і гнеў за фальсіфікацыі выбараў, і што чалавека, калі ён захоча стаць кандыдатам у прэзідэнты, могуць проста і ні за што пасадзіць у турму і трымаць там колькі хочацца. Што можна збіць, пакалечыць, нават забіць, і за гэта нічога не будзе.

І гэта не гнеў разбуральны. Гэта раз'ятранасць ад парушэння нацыянальнага права, якое мусіць быць асновай і фундаментам дзяржавы. Пратэст адбываўся за ўзнаўленне законнасці. Гэта менавіта і была сапраўдная спроба аховы грамадскага парадку, "пра якую так доўга гаварылі бальшавікі".

Бо калі такога грамадскага парадку няма, з'яўляюцца велізарныя злаякасныя пухліны злачынстваў, якія разбураюць увесь дзяржаўны арганізм.

Як прыклад – адзін маленькі дапісаны неканстытуцыйны пункт аднаго не самага вызначальнага, мякка кажучы, закону дазваляе пасадзіць у турму 35 000 чалавек за тры месяцы, прынесці пакуты як мінімум дзесяці-дваццаці блізкім людзям кожнага з пасаджаных. У выніку – за тры месяцы мы маем рану ў паўмільёна чалавек. Так працуе пухліна. У 1930-я проста былі іншыя лічбы – 58.10 замест 23.34.

За што выходзілі беларусы? За роўнасць перад законам, за доступ да інфармацыі і справядлівы суд, за недатыкальнасць жытла, абарону ад катаванняў і нялюдскага стаўлення, таемнасць перапіскі і выбарчае права, за мірныя сходы, страйкі і незалежныя прафесійныя саюзы.

Насамрэч усё проста. Усё даўно сфармулявана (https://un.by/images/library/Declaration_bel.pdf).

Гэта тая самая, паводле Міністэрства замежных спраў, "насаджаная амерыканцамі дыктатура правоў чалавека". Якой чамусьці баяцца ўсе астатнія дыктатуры.

Гэта маленькі дакументік, які ў 2020-м беларусы праходзілі параграф за параграфам. Стала ясна, наколькі далёкі ён ад бюракратыі і наколькі блізкі да рэальнасці.

На шчасце, большасць урэшце зразумела, што справа не ў прозвішчах. І што трэба цалкам прайсці шлях, не мроячы пра тэлепартацыю. Галоўнае, у 2020-м стала значна цікавей гэтай дарогай ісці. Бо стала відавочна, што ты, мякка кажучы, не адзін і ўжо ніколі не будзеш адзін. Ці не найлепшы гэта вынік года?

**Ціхан Чарнякевіч, budzma.by**

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ЗША ПАТРАБУЮЦЬ ПРЫЦЯГНУЦЬ ЛУКАШЭНКУ І СІЛАВЫЯ ВЕДАМСТВЫ ДА АДКАЗНАСЦІ

Амаль 30 беларускіх суполак і арганізацый ЗША, якія прадстаўляюць больш за 60 тысяч беларусаў Амерыкі, патрабуюць прыцягнуць Лукашэнку і яго сілавыя ведамствы да адказнасці за злачынствы супраць чалавечнасці! #PeoplesTribunal #StandWithBelarus #ЖывеБеларусь

**Паводле facebook.com/groups/BAZANewYork**

Belarusians in Chicago Nonprofit Organization
Belarusian-American Association, Inc. New York
Belarusian-American Association in Washington, D.C.
Belarusians of Ohio
Belarusians of Michigan
Belarusians in Boston
Belarus FREEDOM - Philadelphia
North Carolina Belarus Community
South Carolina Belarus Community
Belarusians in Northeast Florida
Belarusians in Miami
South Florida Chapter Belarusian-American Association
Belarusians in Florida
Belarusians of Atlanta
Belarusians in Austin
Belarusians of Arizona
Belarusians of San Diego
Belarusians in Orange County, California
Belarusians of Los Angeles
Belarusians of San Francisco Bay Area
Belarusians of Sacramento
Беларусь Сінявокая - Colorado
Belarusians of Portland and Vancouver
Belarusians of Seattle
Belarusian Americans - Minnesota
Belarusians of St. Louis

навіны

# КАНАДСКІЯ БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧЫЛІ 90-ГОДДЗЕ КАРАТКЕВІЧА НАВУКОВАЙ АНЛАЙН-ВЕЧАРЫНАЙ

Дзевяностагоддзе з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча было шырока адзначана ў Беларусі. Нават ва ўмовах пандэміі ў многіх месцах былі зладжаны прысвечаныя пісьменніку імпрэзы, з'явіліся публікацыі ў друку, інтэрнэце.

Не засталіся ўбаку ад юбілейнай даты і беларусы, якія жывуць у Канадзе. 28 лістапада з ініцыятывы Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе і Згуртавання беларусаў Канады была падрыхтавана, выпушчана ў эфір і размешчана на Youtube праграма "Вечар, прысвечаны 90-годдзю з Дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча".

Незвычайны анлайн-фармат вечара дазволіў выступіць удзельнікам, якіх, безумоўна, немагчыма было б сабраць разам іншым спосабам: з Канады (Атава, Таронта, Уотэрлу, Бэры, Оквіл, Кінгардэн), з Беларусі (Мінск), а таксама з Бразіліі і Іспаніі.

Ініцыятыву ў падрыхтоўцы праявілі паэт Юрась Шамецька і яго жонка Уладзя. Яны прадумалі праграму і кампазіцыю вечара, запрасілі выступоўцаў, якія ў далейшым тым ці іншым чынам прынялі ўдзел у гэтай незвычайнай віртуальнай сустрэчы, якая аб'яднала тых, хто ведаў Караткевіча альбо быў захоплены яго творчасцю ці заклапочаны ўшанаваннем памяці пра яго. Юрась Шамецька выступіў і як вядучы, і як выступоўца, Уладзя грала на скрыпцы.

Першапачаткова была задума зладзіць вечар успамінаў, але праграма пашыралася, дапаўнялася, і ў выніку атрымалася своеасаблівая літаратурна мастацкая кампазіцыя, разнастайная па сваім змесце.

Адкрыўся вечар песняй, "Ой косю мой, косю", у выкананні самога Уладзіміра Караткевіча. Запіс у свой час быў зроблены сябрам пісьменніка Сяргеем Панізнікам, які яго і даслаў на імпрэзу. Яшчэ раз голас класіка прагучаў у відэафрагменце выступлення Караткевіча на ягоным 50-годдзі, калі ён пранікнёна выказаў удзячнасць сваім чытачам.

Верш Караткевіча "Быў. Ёсць. Буду" прачытала Аляксандра Логвін. Пакладзеныя на музыку вершы пісьменніка прагучалі ў выкананні Валянціны Шаўчэнка, Міхася Рыкава і Уладзі Шамецька. Урыўкі з празаічных твораў Караткевіча агучылі Алена Лявончанка і Яфім Падвойскі.

Успамінамі пра Уладзіміра Караткевіча падзяліўся яго сябра, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. Ён быў як ніхто блізка знаёмы з ім, рэцэнзаваў яго творы, напісаў кнігу ўспамінаў.



Паэт Сяргей Панізнік таксама добра ведаў Караткевіча і аповед пра сустрэчы з ім ілюстраваў уласнымі фотаздымкамі. Пісьменніца і паэтка Вольга Іпатава паведаміла, што творчасць Караткевіча абудзіла ў яе цікавасць да гістарычнай тэмы і натхніла на напісанне аповесцей з часоў сівой даўніны.

Беларусаў Канады вітаў у сваім лісце доктар філалагічных навук, прафесар, сябра Уладзіміра Караткевіча Вячаслаў Рагойша. Таксама ён паведаміў, што да юбілею выдаў дакументальна-мастацкае эсэ "Дзесяць саг пра Караткевіча", якое існуе і ў электронным варыянце.

У прывітальным лісце, які даслаў літаратуразнавец, крытык кандыдат філалагічных навук Анатоль Верабей, таксама згадваліся сустрэчы з Уладзімірам Караткевічам, а яшчэ работа па падрыхтоўцы Збору твораў пісьменніка ў 25 тамах, ініцыятарам і арганізатарам якой цяпер выступае навукоўца. Тэму збору твораў падхапіў і літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька, які расказаў пра падрыхтаваны ім першы ў гісторыі беларускай тэксталогіі том малюнкаў пісьменніка.

Ці не асаблівую значнасць і вагу вечару надалі навукоўцы, якія займаюцца даследаваннем творчасці Караткевіча. Іх выступленні – бясспрэчна важкі ўнёсак у даследаванне творчасці пісьменніка.

Вось тэмы іх навуковых паведамленняў і прозвішчы даследчыкаў:

- "Чалавек, які спрычыніўся да будаўніцтва нацыі. Да юбілею У. Караткевіча", старшыня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе, доктар і грамадскі дзеяч Пётра Мурзёнак.
- "Тэма беларускай інтэлігенцыі", прафесар універсітэта Уотэрлу (Канада) Зінаіда Гімпелевіч.
- "Рагачоўскі дзённік Ул. Караткевіча: ля вытокаў", кандыдат гістарычных навук Галіна Туміловіч.
- "Цыкл "Таўрыда" У. Караткевіча і цыкл "Крымскія санеты" А. Міцкевіча", Юрась Шамецька.

Паэт і перакладчыца з Іспаніі Анхела Эспіноса Руіс сказала прачулыя словы пра Уладзіміра Караткевіча і прачытала два сваіх пераклады яго вершаў.

Пра дзейнасць беларускай суполкі ў Бразіліі і сваё ўспрыняцце творчасці Уладзіміра Краткевіча апавядалі Воля і Патэрсан Франка.

Вечар доўжыўся больш за дзве гадзіны. Тэхнічную падтрымку забяспечылі Іна і Алесь Каралькевічы і Сяргей Мазгавы.

У шматлікіх водгуках на прагледжаны ў інтэрнэце запіс вечара выказваюцца словы падзякі яго арганізатарам і ўдзельнікам і пажаданні ладзіць падобныя вечары і надалей.

M.W., zbsb.org

навіны

# "НАРОДНЫЯ АМБАСАДЫ" БЕЛАРУСІ АДКРЫЛІСЯ Ў 14 КРАІНАХ СВЕТУ

Адразу 14 "народных амбасад" Беларусі абвясцілі аб пачатку сваёй працы – прэзентацыя адбылася напярэдадні ў Дзень правоў чалавека і прайшла ў анлайн-рэжыме.




Ідэя "народных амбасад" была агучана і затым замацаваная ў рэзалюцыі Сусветнага кангрэса беларусаў, які прайшоў 30 кастрычніка – 1 лістапада. Ужо 10 снежня на базе дыяспар адкрыліся прадстаўніцтвы ў Бразіліі, Вялікабрытаніі, Германіі, Ірландыі, Іспаніі, Літве, Партугаліі, Славеніі, Украіне, Фінляндыі, Францыі, Чэхіі, Швецыі і Паўднёвай Карэі, паведамляе сайт belarusabroad.org.

На цырымоніі адкрыцця была прадстаўлена дэкларацыя "народных амбасад". У ёй гаворыцца, што беларусы за мяжой не прызнаюць афіцыйныя вынікі выбараў 9 жніўня, асуджаюць рэпрэсіі і падтрымліваюць патрабаванні народа: вызваленне палітвязняў, спыненне гвалту, пакаранне вінаватых у гвалце і правядзенне новых выбараў.

"Мы аб"яўляем аб стварэнні Народных амбасад для абароны правоў і інтарэсаў беларускіх грамадзян за мяжой, а таксама прадстаўлення інтарэсаў дэмакратычнай Беларусі", – гаворыцца ў дэкларацыі праекта.

Мяркуецца, што "народныя амбасады" будуць інфармаваць грамадскасць аб сітуацыі ў Беларусі, наладжваць кантакты з дзяржаўнымі органамі і дзелавымі коламі краін знаходжання, а таксама абараняць правы і інтарэсы беларусаў, вымушаных пакінуць радзіму.

У цырымоніі адкрыцця "народных амбасад" узялі ўдзел лідар Нацыянальнага антыкрызіснага кіравання Павел Латушка і Святлана Ціханоўская.

"Перакананы, што адкрыццё народных пасольстваў – гэта толькі першы крок на шляху да пабудовы прынцыпова новых адносін дэмакратычнай Беларусі з яе суседзямі і іншымі замежнымі партнёрамі", – сказаў Латушка.

Ціханоўская, у сваю чаргу, падзякавала дыяспары за актыўнасць і ініцыятыўнасць, а таксама адзначыла, што "толькі разам мы зможам перамагчы беззаконне і як мага хутчэй наблізіць Беларусь да свабоды".

**euroradio.fm**

# ЦІХАНОЎСКАЯ ІНІЦЫЯВАЛА ЗАПУСК "АДЗІНАЙ КНІГІ РЭГІСТРАЦЫІ ЗЛАЧЫНСТВАЎ"

Святлана Ціханоўская ініцыявала запуск "Адзінай кнігі рэгістрацыі злачынстваў" (https://ekrp.org/). Праект створаны Народным антыкрызісным кіраваннем і камандай былых сілавікоў ByPol. Гэта "адзіны архіў даных злачынцаў і доказаў злачынстваў". Мяркуецца, што ў будучыні ён будзе выкарыстаны беларускімі судовымі органамі і "міжнароднымі прававымі арганізацыямі" для вынясення прысудаў і падрыхтоўкі крымінальных спраў. Архіў таксама "з"яўляецца крыніцай звестак для перадачы інфармацыі ў Інтэрпол (праз Міжнародную ўніверсальную юрысдыкцыю), АБСЕ, Савет Еўропы".



"Беспакаранасць не будзе доўжыцца вечна, – піша Ціханоўская. – Ніхто не пазбавіць голасу сотні тысяч чалавек, якія жадаюць справядлівасці. Няма такой сілы, якая можа прымусіць людзей проста забыць усё, што адбылося".

Асобы, пра чые злачынствы ўдасца сабраць матэрыялы, могуць ужо ў найбліжэйшы час трапіць пад санкцыі.

Святлана Ціханоўская звярнулася да сілавікоў. Паводле яе слоў, "Адзіная кнігі рэгістрацыі злачынстваў" – "гэта апошні шанец для тых, хто альбо быў сведкам злачынстваў калег, альбо іх вымушаным саўдзельнікам". Яны могуць спадзявацца на змякчэнне пакарання, калі дадуць паказанні. "Але толькі калі ваш калега не заявіць пра вас раней, чым вы пра яго", – падкрэслівае Ціханоўская.

**euroradio.fm**

# ПРАДСТАЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ ІНІЦЫЯВАЛІ ПЕТЫЦЫЮ Ў СТРУКТУРЫ ЭЗ СУПРАЦЬ БЕЛАЭС

Прадстаўнікі беларускай дыяспары на сайце supolka.net ініцыявалі петыцыю ў Раду Еўрасаюза, Еўрапарламент, лідарам палітычных партый краін ЕС, у экалагічныя ініцыятывы ЕС супраць Беларускай АЭС.

"Мэты петыцыі – прыцягнуць увагу палітыкаў і грамадскасці ЕС да праблематыкі БелАЭС, увесці поўную забарону на імпарт у ЕС электраэнергіі, што выпрацоўваецца ў Беларусі, яе транзіт па тэрыторыі ЕС, а таксама прыняцце санкцый супраць кампаній, якія ажыццяўляюць пастаўкі абсталявання на БелАЭС", – тлумачаць аўтары.

"У сваёй петыцыі мы выказваем глыбокую заклапочанасць запускам БелАЭС – атамнай электрастанцыі ў Астравецкім раёне Беларусі, які адбыўся 7 лістапада 2020 года. БелАЭС размешчаная ў непасрэднай блізкасці ад мяжы ЕС, а яе эксплуатацыя і ўзнікненне надзвычайных сітуацый у будучыні ўяўляюць сур'ёзную экалагічную пагрозу ўсяму Еўразійскаму кантыненту. Мы просім прыкласці ўсе намаганні да таго, каб абараніць нас ад катастрофы, якая набліжаецца!" – падкрэсліваюць ініцыятары.

Яны разлічваюць, што прапанаваныя захады "дазволяць паскорыць змену палітычнага рэжыму ў Беларусі, пасля чаго міжнародныя эксперты змогуць правесці дэталёвае абследаванне і даць аб'ектыўнае заключэнне аб бяспецы БелАЭС".

Збор подпісаў працягнецца да 1 лютага 2021 года.

**svaboda.org паводле БелаПАН**

**in memoriam**

# ПАМЁР ВАЛЕР САНЬКО

На 82-м годзе жыцця 22 лістапада памёр сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына", пісьменнік і краязнавец Валер Санько.




Наш зямляк вядомы як кнігавыдавец, журналіст, доктар народнай медыцыны. Яго запісы беларускага фальклору друкаваліся ў газетах, часопісах, у акадэмічным пяцідзесяцітомным выданні беларускага фальклору. Арганізоўваў і ўзначальваў упершыню створаную ў Беларусі рэдакцыю краязнаўства (выдавецтва "Полымя", 1982–1989). Быў намеснікам рэдактара міждзяржаўнай чарнобыльскай газеты "Набат" (1990–1991), дырэктарам выдавецтва "Хата" (1992–2006).

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім спадара Валера Санько.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ПАМЁР МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ – БЕЛАРУСКІ І ТАТАРСКІ ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ

У польскім Сопаце памёр Мацей Канапацкі – беларускі і татарскі грамадскі дзеяч. Пра гэта паведаміла гісторык Лена Глагоўская. Канапацкаму было 94 гады. За сваё жыццё ён паспеў абараніць першую ў гісторыі варшаўскай русістыкі магістарскую працу на беларускую тэму, стаць адным з арганізатараў Варшаўскага аддзелу Беларускага грамадска-культурнага таварыства.



Пра Мацея Канапацкага згадвае прафесар Лена Глагоўская.

**РР: З Мацеем Канапацкім Вы былі добра знаёмыя.**

**Лена Глагоўская:** Так, шмат гадоў. Ад пачатку 90-х, а мо і з канца 80-х гадоў. Сустрэла яго ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве, якое тады існавала ў Гданьску. І першае, што яго запытала, ці ён ёсць сынам Гасана Канапацкага, чым ашарашыла Мацея.

**РР: Гасан Канапацкі – вайсковец, палкоўнік, арганізатар беларускага войска ў 1919 годзе. Невыпадковая асоба ў беларускім руху, так?**

**Лена Глагоўская:** Так, абсалютна. Мацей Канапацкі, хоць паходзіў з татарскай сям'і, мусульманскага веравызнання, адначасна паходзіў са свядомай беларускай сям'і. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі падчас Другой сусветнай вайны, якая лічылася кузняй беларускай інтэлігенцыі. А ягоны бацька Гасан быў у той час старшынёй бацькоўскага камітэта.

**РР: Як бы Вы коратка ахарактарызавалі Мацея Канапацкага?**

**Лена Глагоўская:** Для мяне лепшым акрэсленнем таго, кім быў Мацей Канапацкі, ёсць словы Юркі Ваўкавыцкага: "непераўзыдзены следапыт". Калі пераглядаеш "Ніву" 50-х – 60-х гадоў, то артыкулы Мацея Канапацкага адрозніваюцца той інтэлігентнасцю, якой не хапала журналістам, якія тады ў "Ніве" працавалі. Гэта быў вялікі інтэлігент, гуманіст, экуменіст. Ён быў вельмі адкрытым чалавекам, ніколі не лічыў сваіх грошай і фактычна іх ніколі не меў. Светлая постаць. Я мала ведала такіх людзей. Ён меў у сабе столькі гумару, столькі пазітыўнай энергіі. І гэта здзіўляе, улічваючы, праз што ён прайшоў у 50-60 гады.

Спадар Мацей паходзіў з Віленшчыны, жыў і працаваў у Быдгашчы, Варшаве, Беластоку… Друкаваўся ў беластоцкай беларускай газеце "Ніва", рэдагаваў беларускія праграмы на беластоцкім радыё, даследаваў творчасць беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, культуру беларускіх татараў. У 1993 годзе Мацей Канапацкі стаў дэлегатам Першага з'езду Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Вечная памяць.

**"Беларускае Радыё Рацыя"**

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2021 года

**1 студзеня**

- 160 гадоў таму, у 1861-м, нарадзіўся Яўхім Карскі, этнограф. Памёр у 1931-м.
- 60 гадоў таму, у 1961-м, нарадзіўся Ігар Гермянчук, рэдактар газетаў "Свабода", "Навіны", часопіса "Кур'ер". Памёр у 2002-м.

**2 студзеня**

- 53 гадоў таму, у 1986-м, памёр Уладзімір Тарасевіч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**7 студзеня**

- Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Яўхім Кіпель, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1969-м.
- 105 гадоў таму, у 1916-м, нарадзіўся Уладзімір Сіўко, паэт.
- 100 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Яўген Кавалеўскі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Францыі. Памёр у 1963-м.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, памёр Кандрат Крапіва (сапр. Атраховіч), драматург, паэт.

**8 студзеня**

- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Уладзімір Дудзіцкі (сапр. Гуцька), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Венесуэле і ЗША. Бясследна знік у 1976-м.
- 85 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Генадзь Каханоўскі, гісторык. Памёр у 1994-м.

**9 студзеня**

- 220 гадоў таму, у 1801-м, нарадзіўся Восіп Кавалеўскі, гісторык. Памёр у 1878-м.

**12 студзеня**

- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Язэп Малецкі, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Памёр у 1982-м.

**13 студзеня**

- 180 гадоў таму, у 1841-м, нарадзіўся Ігнат Здановіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Павешаны ў 1864-м.

**16 студзеня**

- 195 гадоў таму, у 1826-м, нарадзіўся Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Павешаны ў 1864-м.
- 55 гадоў таму, у 1966-м, у Таронта створаны Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады.

**19 студзеня**

- 95 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Віктар Сянкевіч, дзеяч эміграцыі ў Іспаніі, Вялікабрытаніі і ЗША. Памёр у 2017-м.

**22 студзеня**

- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Андрэй Александровіч, пісьменнік. Памёр у 1963-м.

**27 студзеня**

- 45 гадоў таму, у 1976-м, у Мінску створана Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой "Радзіма" (старшыня Рыгор Шырма).

**Беларусы ў свеце**
№ 12 (223), снежань 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27